# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 51 (982) ГОД XIX 22 СНЕЖНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.







*Танцавальны калектыў беларускага ліцэя ў Бельску.* *Фота А. Карпюка.*

## НАЙЦЯЖЭЙШЫЯ і НАЙПРЫГАЖЭЙШЫЯ

Яна выбрала настаўніцкую прафесію яшчэ тады, калі ў вясковых школках на Беласточчыне адчуваўся вялікі недахоп педагогаў. Каму як каму, але ёй — сялянскай дачцы з Рыбакоў, што ў Беластоцкім павеце — былі знаёмы да найменшых дробязей усе нягоды вясковага дзіцяці, калі ў школе няма камплекту настаўнікаў-спецыялістаў. Перад вачыма заўсёды стаяў вобраз сумнай грамадкі яе аднакласнікаў, калі раніцай прыбіральшчыца, стоячы на парозе школы, казала ім: „Бяжыце, дзеткі, дадому. Ваша пані захварэла і вучыць вас не дасць рады...“ Якая ж цяжкая была тады вучнёўская сумка і якім шэрым ды няветлівым выдаваўся нават сонечны дзень!.. Зрэшты, калі нават і рэгулярна адбываліся заняткі, але той самы настаўнік мусіў вучыць матэматыцы, гісторыі, геаграфіі, малюнкам, дык, нягледзячы на самыя шчырыя імкненні, не пад сілу яму было даць выхаванкам глыбокія і грунтоўныя веды і ўменні. І вось пасля дзевятага класа агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове яна едзе ў Алецка, дзе быў ліцэй з класамі педагагічнага напрамку. У 1955 годзе з дыпломам настаўніцы **Тамара Цівонюк** прыязджае ў вёску Лука Гайнаўскага павету. З журналам у руцэ і трапечачым ад хвалявання сэрцам ідзе на свой першы ўрок і... па сённяшні дзень застаецца ў лучанскай школе.



(Працяг на стар. 4)




* * *

*Мова зямлі маёй! Мова*
*бацькаўшчыны!*
*Пачую твой гук на чужой зямлі —*
*І бумкае чмель у гародчыку басам,*
*Трубяць за возерам жураўлі.*

*Дарма мне казалі, што ў пальмавым*
*краі*
*Я нават успомніць цябе не змагу,*
*Што іншая песня — мелодыяй раю —*
*З душы маёй выцесніць просты твой*
*гук.*

*Мова мая!*
*Для мяне ты заўсёды —*
*Сонца вясновага цёплы прамень,*
*Дзіва ляснога поўныя соты,*
*Рэчка, што асвяжае ў сухмень.*

**Кастусь Цвірка**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Там, дзе канчаецца Польшча ● Харчовая гаспадарка Беласточчыны ● Заблудаў у фатаграфіях ● Барскі разгубіўся ў Нефцеюганску ● Яновіч аб Паўлючуку ● Швед аб Пецюкевічу ● У Ларса баліць галава ад вышэйшай матэматыкі ● Сігнал з забытага ўладамі Круглага Ляска ● Весткі з бельскага ліцэя, Залукаў, Ляшукоў, Чаромхі, Крынак, Елянкі, Ласінкі ● Песня „Мгновения“.**

**У СВЯТЛЕ ПАСТАНОЎ XV ПЛЕНУМА ЦК ПАРП**

# СЯРОД УЗГОРКАЎ ДУБРОЎШЧЫНЫ

Між Саколкай і Дубровай чорная істужка шашы праходзіць праз многія вёскі: Красняны, Сакаляны, Рыцэва, Макаўляны, Бербіха, Няросня і Бжазова. Праязджаючы праз гэтыя вёскі, заўважыў я, што на абочыне дарогі ля варот паасобых гаспадароў стаяць мяшкі з мінеральнымі ўгнаеннямі. Гэтага яшчэ не даводзілася назіраць мне ў час шматгадовых вандровак па вёсках Беласточчыны. Дык у Дуброве звярнуўся я за паясненнямі да загадчыка сельскагаспадарчым аддзелам Дуброўскага павятовага ўпраўлення, магістра інжынера **Генрыка Матулевіча.**

— У лістападзе, як вам вядома, мінеральныя ўгнаенні найтаннейшыя, — сказаў ён. — Дык мы і рашылі дапамагчы нашым сялянам. Яны заняты былі ўборкай бульбы, буракоў і тытуню, а мы, выкарыстоўваючы свабодны гэесаўскі і гурткоўскі транспарт, даставілі ім гэтых вітамін высокага ўраджаю. Вядома, раней аграномы паклапаціліся пра тое, каб саставіць спіскі, колькі чаго і каму трэба. Гэта называецца ў нас **метадам актыўнага продажу** штучных угнаенняў. На адзін гектар у сярэднім прыпадае ў нашым павеце 130 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва. Толькі гміна Ліпск, якая лічыцца ў нас прыкладнай гмінай, дабілася ўжо 150 кг/га. Хацелася б, каб у гэтым гаспадарчым годзе такога ж узроўню стымуляцыі ўраджайнасці дабіліся іншыя гміны.

У Дуброўскім павеце ёсць цяпер чатыры гміны: **Дуброўская, Сухавольская, Новадворская і Ліпская.** Займаюць яны ўзгорыстую тэрыторыю, дзе зямля не надта шчодрая на высокі плён, а затое багата засмечана валунамі рознай велічыні. Камення тут больш, як бульбы, але і бульбай таксама славіцца Дуброўшчына.

— Наш павет, — з гордасцю адзначае магістр інжынер Г. Матулевіч, — па скупцы бульбы ад сялян займае ў гэтым годзе перадавое месца ў ваяводстве.

— А ці нейкая частка бульбы не асталася ў вас на полі?

— Не, дапамагло нам лістападаўскае ацяпленне. Аднаасобнікі змаглі справіцца з уборкай бульбы сіламі ўласных сем'яў, а ПГР-ам у Бобры Велькай і Макаўлянах, а таксама сельскагаспадарчым гурткам наладзілі мы актыўную дапамогу, бо не змаглі яны за ніякія грошы наняць рабочых у вёсках. Разам у бульбяной кампаніі прыняло ўдзел у нашым павеце звыш 1300 чалавек, якія працавалі 6215 гадзін.

У кабінет загадчыка сельскагаспадарчым аддзелам бесцырымонна ўварвалася раптам нейкая жанчына з вёскі Сухая Даліна. Мне адразу ўспомнілася аповесць Элізы Ажэшкі „Дзюрдзі“, якая таксама разыгрываецца ў Сухой Даліне. А тая жанчына без прывітання, адразу ад дзвярэй хутка пачала галасіць польска-беларускай гаворкай пра сваю „бяду“, што землямер не так, мабыць, як трэба, запісаў яе гаспадарку.

„Галосіць, як жонка Сцяпана Дзюрдзі“, — падумаў я.

Загадчык выклікаў аднаго з падначаленых працаўнікоў і загадаў яму ад рукі разабрацца ў бядзе гэтай жанчыны. А звяртаючыся да мяне, ён сказаў:

— Такіх кліентаў цяпер у нас шмат. У вёсках даем мы надзелы зямлі тым, хто фактычна яе апрацоўваў, і гэта выклікае павышанае зацікаўленне зямлёй. Але вось адна сям'я з-пад Макаўлян, якая даўным-даўно забыла пра бацькаўшчыну, абсталяваўшыся выгодна недзе ў Гданьску, калі даведалася, што яе гаспадарку перадалі мы на ўласнасць ПГР-у, раптам пачула прыліў кахання да бацькаўшчыны і дарэмна пачала выціраць парогі розных установ, каб вярнуць гаспадарку. Зямля з'яўляецца агульнаграмадскім багаццем і павінна прыналежыць таму, хто гарантуе яе дбайнае выкарыстанне.

— Вось менавіта, скажыце, калі ласка, як рашылі вы загаспадарыць дзялянкі дзяржаўнага фонду зямлі?

— У кастрычніку гэтага года павятовае ўпраўленне супольна з павятовымі ўстановамі ПАРП і ЗСЛ апрацавала комплексную праграму дзеяння ў гэтай галіне. На тэрыторыі Дуброўскага павету знаходзіцца дзяржаўны сельскагаспадарчы камбінат Бобра Велька, які мае свой філіял у Макаўлянах. Дык у тых раёнах няма бяды з апрацоўкай дзяржаўнай зямлі. У іншых раёнах Дуброўшчыны аддаем яе ў калектыўнае загаспадарванне міжгурткоўскім базам і сельгасгурткоўскім кааператывам. І так: МБМ Дуброва апрацоўвае 50 га, МБМ Новы Двор — 124 га, сухавольскі кааператыў — аж 170 га.

— У вёсках астаецца ўсё больш старэйшых людзей, якія не ў сілах справіцца з абавязкамі сучаснага гаспадара. Як вы рашаеце гэтую праблему?

(Працяг на стар. 4)

## Што новага?

### У кааператараў Беласточчыны

Пад канец лістапада адбыўся ў Варшаве чарговы з'езд дэлегатаў сельскагаспадарчых кааператываў. Выклікаў ён шырокае зацікаўленне сярод грамадства праблемамі калектыўнай гаспадаркі ў Польшчы. Як вынікае з пастаноў XV пленума ЦК ПАРП і апошняй асенняй сесіі Сейма ПНР, кааператывам ужо цяпер і ў будучыні адводзіцца вельмі важнае месца ў ажыццяўленні праграмы забеспячэння насельніцтва харчамі і сацыялістычных пераўтварэнняў у галіне сельскай гаспадаркі ў нашай краіне.

Усё гэта стала прычынай, каб пацікавіцца, што новага ў кааператараў Беласточчыны.

Лявон Пэрэк — старшыня Саюза сельскагаспадарчых кааператываў у Беластоку — заявіў мне, што прадстаўнікі кааператараў Беласточчыны вярнуліся са з'езду з моцным перакананнем, што стаяць яны на ўласцівым шляху і добра ажыццяўляюць палітыку партыі і ўрада ў галіне сельскай гаспадаркі.

Цяпер на Беласточчыне дзейнічаюць 23 сельскагаспадарчыя кааператывы.

— Члены іх, — гаворыць старшыня Пэрэк, — напэўна цяпер лягчэй працуюць, а лепш жывуць, чым аднаасобнікі. Вось у мінулым гаспадарчым годзе чысты даход адной калгаснай сям'і склаў ад 40 да 70 тысяч злотых, значыць — ад 3,5 да амаль 6 тысяч злотых у месяц. А трэба вам ведаць, што гэтыя лікі адносяцца толькі да прыбытку з супольнай гаспадаркі. Тут не ўлічваюцца ані куры, ані свінні і каровы, якіх калгаснікі трымаюць на сваіх прысядзібных дзялянках, а гадуюць яны па 1-2 каровы, па некалькі свіней і па некалькі дзесяткаў курэй. Даход з прысядзібнай гаспадаркі поўнасцю забяспечвае штодзённыя патрэбы сем'яў калгаснікаў і астаецца яшчэ шмат чаго на продаж.

Усе спулдзельні багата цяпер забяспечаны рознымі сельскагаспадарчымі машынамі, якія паспяхова выручаюць сялян у цяжкіх палявых работах.

Існуючыя спулдзельні ўжо поўнасцю замацавалі свой быт. Пара тады падумаць аб вышэйшым этапе сацыялістычнай інтэграцыі ў галіне сельскай гаспадаркі, пара спалучаць намаганні паасобных кааператываў. Такім чынам у 1975 годзе будуць заснаваны ў Рыбалах і Нарве міжспулдзельчыя камбінаты па вырошчванню куранят. Будаўніцтва аднаго такога камбіната будзе каштаваць 300 мільёнаў злотых. Аднаму, нават найбагацейшаму кааператыву, не пад сілу было б гэтае мерапрыемства. Кожны з гэтых камбінатаў будзе вырошчваць у год амаль па 2 мільёны куранят.

Кааператары з Ваcькоў, Міхноўкі і Тыневічаў рашылі ў 1975 годзе спалучыць свае кааператывы ў адзін эканамічны арганізм. Гэтым чынам узнікне міжспулдзельчы камбінат, які не толькі забяспечыць патрэбы ўласных калгаснікаў, але гатоў поўнасцю ўзяць на сябе цяжар тэхнічнай і спецыялістычнай дапамогі для сельскай гаспадаркі ў Нараўскай гміне. Будуць утвораны спецыялістычныя палявыя брыгады, якія хутка і спраўна выканаюць кожны загад любога гаспадара.

У Васьках, Тыневічах і Зубачах з пачаткам вясны 1975 года распачнуць працу кааператыўныя букацярні, якія будуць вырошчваць 200-400 цялят у год.

— Які ваш удзел у загаспадарванні дзяржаўнага фонду зямлі?

— Цяпер нашы кааператывы прынялі ўжо ў загаспадарванне амаль 2,5 тыс. га, а да 1980 года плануем загаспадарыць каля 12 тысяч га. (вр)





## Сібірскія балады

### Другая казка аб праўдзе

Дваццаць трэцяе ліпеня, палова першай ночы. Усе на палубе. Праз некалькі мінут падплывем да таго месца, дзе Іртыш уліваецца ў Об. З гэтага месца Іртыш і Об, найбольшыя рэкі заходняй Сібіры, як бацька і маці сібірскіх рэк, моцна абняўшыся, разам паплывуць у Ледавіты акіян.

Судна паварочвае направа, і мы ўжо на новай рацэ. Об намнога шырэйшая, чым Іртыш. Нягледзячы на тое, што ноч, відаць удалі левы і правы берагі. Цяжка ацаніць шырыню ракі, але мясцовыя пісьменнікі гавораць, што рака разліваецца на 7 кіламетраў, а яе даўжыня 3.500 км. Відаць на сярэдзіне ракі два вялікія астравы. На Іртышы нідзе астравоў не было.

Гляджу ў неба. Няма ні месяца, ні зорак, толькі на поўначы ярка ззяе палярная зорка. І ад вады, і ад бяззорнага неба б'е аднак нейкая дзіўная яснасць і спакой. Толькі ціхі гул матора ўзбударажвае цішыню Обі.

І так праплылі мы ўжо больш сямісот кіламетраў. Да Ледавітага акіяна не даплылі тысячу кіламетраў, уплылі ў Об і павярнуліся да акіяна плячыма. Пачалі ўцякаць ад яго на поўдзень.

Каля мяне стаіць пісьменнік з племя ханты Іван Шэсталаў, гаворыць:



*На здымку злева направа: Іван Шэсталаў з племя мансі, аўтар і Мікуль Шульгін, вядомы пісьменнік з племя ханты.*

— О, адсюль вельмі блізка да майго бацькі, усяго 400 кіламетраў.

Сапраўды „блізка“!

Каля першай гадзіны ночы палуба пусташэе. Застаюся адзін. Гляджу на ваду, на берагі, на неба і думаю аб далёкіх, далёкіх Бандарах і аб рэчцы маёй Нарве і аб нашым бандарскім небе.

Урэшце іду спаць. Гэтай ночы сніўся мне Хмялеўскі Міхась.

Раніцай, пасля снедання, усе выйшлі на палубу. Цеплыня. Загараем. Ля мяне сядзіць ленінградскі паэт Дудзін. Як заўсёды, апавядае цікавыя рэчы. Гаворыць, што некалькі гадоў таму назад пераносілі астанкі Гогаля. Пры нагодзе адкрылі магілу паэта Языкава. Прысутны пры гэтым поп перахрысціўся і сказаў:

— Божа мой, жывога пахавалі!

Аказалася, што косці Языкава ляжалі тварам уніз. Справа ў тым, што Языкаў быў чалавекам з паталагічным адхіленнем ад нормы. Часта пападаў у летаргічны сон. Быць можа, у час аднаго з такіх сноў пахавалі яго. Можа праўда, можа легенда.

Пасля Дудзін пачынае гаварыць аб рэдкім уральскім камені малахіце. Я ўжо і датэтуль ведаў, бо бачыў, што велізарныя калоны ў славутым Ісакіеўскім саборы ў Ленінградзе абліцаваны малахітам. Ад Дудзіна, аднак, даведваюся, што малахіт страшэнна дарагі. Каштуе столькі, колькі каштуе золата. У пэўным момансе Дудзін пахмурнее і гаворыць:

— Сярод наведвальнікаў Ісакіеўскага сабору не бракуе мярзаўцаў. Пачалі адкалупваць малахіт ад калон. Хочуць узбагацецца. Малахіт ідзе з золатам грам за грам.

А $12^{10}$ сходзім з палубы ўніз, у чытальню. Адбудзецца другая лекцыя сібірскага пісьменніка Канстанціна Лагунова. Чакаем некалькі мінут. Прыходзіць і адразу прыступае да справы.

— Сёння, — гаворыць, — прыплываем у Нефцеюганск. Хачу вам расказаць аб гэтай мясцовасці і аб яе гісторыі. Дваццаць гадоў таму назад на месцы сённяшняга Нефцеюганска была маленькая хантыйская мясцовасць Уст-Балык. У яе прыехалі ў пачатку пяцідзесятых гадоў геолагі. З часам разам з сем'ямі іх колькасць узрасла да 2000. Жылі ў вагонах з гумовымі коламі. Частка жыла ў „насыпушках“ — хатках, збітых з дошак, паміж якімі насыпаюць апілкі. Рэшта жыла ў звычайных землянках. Геолагі пабудавалі і маленькі аэрадром для лёгкіх самалётаў і верталётаў. У сваёй працы і пераездах карысталіся найчасцей машынамі АТТ (артилерийский тяжелый тягач). Гэтыя машыны маюць страшэнную сілу — 800 конскіх сіл. Але і яны не заўсёды перамагалі цюменскае балота.

— Памятаю, — гаворыць Лагуноў, — такі момант. Ехалі мы вясной АТТ і загразлі так, што ніхто машыну ўжо выцягнуць не мог. Праз нейкі час прыехаў другі цягач, прывёз дошкі. З дошак зрабілі кладкі, і мы выйшлі неяк на цвёрды грунт. АТТ назаўсёды застаўся ў балоце.

— Памятаю здарэнне, звязанае з зімой. Начаваў я ў геолагаў у вагоне. З вечара моцна напалілі печку. Нягледзячы на 49-градусны мароз, у вагоне была жарышча. Хадзілі без кашуляў, адзін памыў галаву. Калі пачалі класціся спаць, здзівіла мяне, што ўсе апранаюць па некалькі пар цёплай бялізны, што накрываюцца некалькімі коўдрамі і кажухамі. Я накрыўся адной коўдрай. Ноччу прачнуўся ад страшэннага холаду, назбіраў штук 5 коўдраў, накрыўся. Спаў толькі гадзіну, прачнуўся зноў. Знайшоў кажух і накінуў на коўдры. І так не было зацёпла. Прачнуўся раніцай, убачыў, што ўсе сцены пакрыты інеем, снегам, а нават лёдам. У таго, што вечарам памыў галаву, валасы прымерзлі да сцяны. У хатцы стаяў страшэнны холад. Геолагі пачалі цягнуць лёсы — каму першаму ўстаць і напаліць печку.

Падчас страшэнных 50-градусных марозаў адмаўляе тэхніка, не працуюць машыны. Нават грамадныя МАЗ-ы, якімі кіруюць два шафёры, адразу ў такіх умовах становяцца бяссільнымі. Вось у такі дзень ляцелі мы над тайгой. У адным месцы заўважылі машыну, чалавека і маленькае, маленькае полымя. Селі, аказалася, што два дні таму назад машына сапсавалася, а яе шафёр Васілёнка сядзіць і грэецца паяльнікам. Калі мы сказалі, што забярэм яго, згадзіўся, але паставіў умову, што забярэм каштоўны груз, які ён вязе сваім грузавіком. Прыйшлося забраць і груз. У верталёце Васілёнка адразу заснуў. Завезлі мы яго ў бальніцу, але калі назаўтра даведаўся, што па яго машыну высылаюць цягач, самавольна пакінуў бальніцу і паехаў за сваёй машынай у тайгу.

І вось такія людзі пад кіраўніцтвам Гайнэ Салманова знайшлі вялікую нафту. Спачатку бурылі ў год 10-15 тыс. метраў. У гэтым годзе абавязаліся прабурыць 100 тыс. метраў. Гэта значыць, што не будзе нядзель, не будзе свят. Будзе толькі гераічнае змаганне з зямлёй, з балотам і дзікім марозам. Усё гэта і ёсць казачнай праўдай.

**Алесь Барскі**

## Telewizja Warszawa

**Niedziela 22.XII.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Mech. rol. 7.30 Kurs Rol. 8.05 Przyp., radz. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.40 Bieg po zdr. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 11.00 Wojna w Afryce — film dok. ang. 12.20 Dzien. 12.40 Z kamerą w Konopnicy. 13.00 Pr. muz. 13.30 Piórkiem i węglem. 13.55 Dla dzieci. 15.05 Estrada Lit. 15.30 Lektury Pegaza. 15.45 Los. Toto-Lot. 16.00 Wielka gra. 16.50 Refl. ob. 17.10 Pol. film dok. Gdyby wszystko było pierwsze. 17.45 Pr. rozr. 18.10 Sport. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Puccini — film wł. 21.45 Sam na sam z J. Szajną. 22.45 Sport.

**Poniedziałek 23.XII.** 9.00 Książę i żebrak — film fab. CSRS — cz. I. 15.50 Nurt — Nauki polit. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Echo stad. 17.55 Warsz. persp. 18.10 Soliści pol. baletu. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Konsylium — cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: M. Z. Bordowicz — Coraz większy spokój. 21.15 Pr. rozr. 22.00 Spotkania w drodze — Woj. białostockie. 22.50 Konsylium — cz. II. 23.05 Dzien.

**Wtorek 24.XII.** 9.00 Książę i żebrak — film. fab. CSRS — cz. II. 10.10 Puccini — film wł. 14.15 Pr. dnia. 14.20 Kino „Skrzat”. 15.00 O dokarm. zwierząt. 15.10 Wódz Indian — Tecumseh — film fab. NRD. 16.55 Polska w oczach świata (Japonia) — rep. film. 17.20 Gospoda pod piórem i gitarą. 18.00 Wieczór Wigil. u Hanuszkiewiczów. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kolędy i pastorałki. 20.40 Teatr TV: A. Fredro — Pierwsza lepsza. 21.25 Dobry wieczór — tu Łódź. 22.25 Arsen Lupin. 23.15 Hiszp. pr. rozr. 23.45 Bajka dla dor.

**Środa 25.XII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 W pustyni i w puszczy — film TVP odc. I. 10.00 Srebrna droga — rep. film. 10.50 Kolędy i pastorałki. 11.25 Pr. publ. 12.45 Godzina Orfeusza. 13.25 Klub Sześciu Kont. 14.15 Dla dzieci: H. Januszewska — Czerwony Kapturek. 14.45 Los. Mał. Lot. 14.55 Fantomas — film. fab. franc. 16.25 Pieśni pol. śpiewa E. Jaroszewicz — sopran. 16.40 Polska w oczach świata (USA) — rep. film. 16.50 Z najlepszymi życzeniami. 18.10 Tele-Echo. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kleopatra — film fab. amer. 23.25 Pr. rozr.

**Czwartek 26.XII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 W pustyni i w puszczy — film TVP odc. II. 10.00 Gdy zagrają stare płyty. 10.30 W star. kinie: Tarzan i Amazonki. 11.45 Zodiak. 12.30 Pastorałki i kolędy. 12.50 Z kamerą wśród zwierz. 13.25 Dla dzieci. 14.05 Polska w oczach świata (ZSRR) — rep. film. 14.30 Pojedynek — III runda (Sz. Kobyliński — B. Ładysz). 15.50 Jak ukraść milion — film fab. USA. 17.50 Spotkanie z Balladą. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.05 Teatr Kobra: W. Irish — Pani Widmo. 21.15 Walter broni Sarajewa — film fab. jugosł.

**Piątek 27.XII.** 9.00 Niezwykły orzeł — film (Disneyland). 9.50 Arsen Lupin — film franc. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 15.50 Nurt — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.25 Polska w oczach świata (Dania) — rep. film. 17.45 Studio Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Tajemnice Jogów (Fakty, op., hip.). 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: J. Fischer — Jak redagowałem dziennik w Tennessee wg Marka Twaina. 21.15 Panorama. 21.55 Sport. 22.25 Śpiewa R. Tarasewicz. 22.50 Dzien.

**Sobota 28.XII.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 10.00 Barwy ziemi — film. fab. radz. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.20 Bot. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Red. Szk. zap. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 15.40 Inf. Wyd. 16.00 Dzien. 16.10 Sobótka. 16.35 Rep. 16.55 Dla młodzieży. 17.50 Polska w oczach świata (CSRS) — rep. film. 18.15 Norweski pr. rozr. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Ujrzeć Neapol i... — film fab. węg. 21.40 Pr. rozr. 22.40 Dzien. 23.00 Sport.

## Тэлевізія Мінск

**Piątek 20.XII.** 17.20 Artysta ludowy ZSRR E. Swietłanow. 18.10 Nasi sąsiedzi. 19.30 Koncert estrad.

**Sobota 21.XII.** — 12.00 Hokej, ZSRR—Czechosł. 17.40 Film fab. 19.30 Śpiewa G. Ots. 20.30 Sport. Koszykówka i szermierka.

**Niedziela 22.XII.** — 12.15 Film fab. 15.30 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.15 Film fab. 19.30 Koncert z NRD. 20.25 Sport. Szermierka.

## Кіно

**Białowieża** Waleczni przeciw rzymskim legionom — rum. 24—25. Romantyk — węg. Podróż w XXX-lecie — pol. 28—29.

**Czeremcha** Na niebie i na ziemi — pol. 25—26. Uciekaj i daj się złapać — NRD 28—29.

**Czyże** Był sobie glina — franc. Na niebie i na ziemi — pol. 25—29.

**Dubicze Cerkiewne** Pippi w kraju Taka-Tuka — szwedz. I pozdrawiam jaskółki — czes. 25—29.

**Gródek** Fraulein doktór — jug. 25—26. Łautorzy — radz. 28—29.

**Kleszczele** Podróż w XXX-lecie — pol. 24—25. Włoch szuka żony — włos. 26—27. Chłopi — pol. 28—29.

**Michałowo** Wilk morski — rum. 24—25. Zemsta wilka morskiego — rum. 26—27. Nagrody i odznaczenia — pol. 28—29.

**Mielnik** Nie ma mocnych — pol. 25—26. Janosik — pol. 28—29.

**Milejczyce** Przez pustynię — meks. 24—25. Trzy orzeszki dla kopciuszka — czes. 26—27. Wybacz i żegnaj — radz. 28—29.

**Narew** Echa dawno minionych dni — radz. Bułeczka — pol. 25—29.

**Narewka** Niewygodny kochanek — franc. Ostatni po Bogu — pol. 25—29.

**Nurzec** Podróż za jeden uśmiech — pol. 24—25. Wdowa Coudero — franc. 26—27. Babie lato — bułg. 28—29.

**Orla** Motocross — czes. Prawo gwałtu — USA 25—29.

**Rajsk** Nie drażnić cioci Leontyny — franc. Wielka, większa i największa — pol. 25—29.

**Suchowola** Wódz Prusów — radz. Człowiek, który przestał palić — szwedz. 25—29.

B.Z.Graf. zam. 3541 O-3

# Святлана і Эрвін.
## Сказ пра дружную сям'ю

Яна — з Белавежы, са Стачка. Ён — з Добжыня ля Нідзіцы. Яе жыццёвая дарога свой самастойны пачатак мае ў беларускіх класах бельскага Педагагічнага ліцэя. А ягоны лёс разгасцініўся ў нечуванай Аструдзе, у прафесіянальным вучылішчы, далей — у ліцэі, агульным.

Беларуская дзяўчына і мазурскі хлапец. Народжаныя ў вайну.

Шляхі іх зліліся ў Торуньскім універсітэце. Былі студэнтамі-паланістамі. Абое захапляліся паэзіяй. Нішто не аб'ядноўвае людзей так моцна, як мастацтва!

Эрвін пісаў вершы.

— А я тады перакладала на польскую мову Алеся Барскага, са зборніка, прывезенага ад бацькоў, — кажа Святлана.

Эрвін даведаўся аб існаванні беларускай літаратуры.

З сінеазёрнай айчыны мазурскай паехаў ён у цёмнахвойную Белавежу; гэта было чароўнае падарожжа ў дзівосны свет. Святлана Навумік і Эрвін Крук пажаніліся пад блакітным, візантыйскім харалам.

Сасватала іх прыгожае.

Гляджу здымкі русакосай маладосці; працягваецца да іх маленькая ручка Томка, сыночка (доня-дочанька, некалькімесячная, спіць смачна ў ложачку). За вакном сыпле лістападдзе. На вуліцы Пана Тадэвуша — навагрудская цішыня. Гэта ў Ольштыне.

— Раскажы, Сакраце, што чуваць у вас, на Беласточчыне, — пытае Эрвін. На спакойным твары гасцюе ўдумлівая павага.

Крукі, стаўшы маладажонамі, пасяліліся ў мазурска-вармінскім Ольштыне. Зараз з'яўляюцца яны вядомай у гэтым горадзе парай.

Ён, паэт і празаік, у штодзённасці — намеснік загадчыка грамадска-партыйнага аддзела „Ольштынскай газеты". Час ад часу піша беларусіянскія эсэ, якія змяшчае на старонках святочных нумароў (напрыклад, пра белавежцаў, у нумары 250: „Іншыя колеры Беласточчыны"). Каб зразумець Эрвіна, трэба прачытаць ягоны раман „Ронда", кніжку, пятую, напісаную аголенымі нервамі і разбалелым сэрцам, несумненна, значную ў польскай літаратуры.

Яна, Святлана, з'яўляецца кіруючым работнікам і выдатным рэдактарам у выдавецтве „Паазер'е". Яе ўклад у развіццё яго — фундаментальны! Работу пачынала тут ад скромнай карэктарскай паўстаўкі (якіх восем гадоў назад). Апошнім часам — пад яе рэдакцыяй выйшлі ў свет, цэненыя на кніжным рынку, выданні твораў рэнесансавых стваральнікаў польскай культуры, што дзейнічалі ў Княжаскіх Прусах і Варміі, Марціна Кромера, Яна Дантышка, Станіслава Мужыноўскага; або анталогія польскіх вершаў, прысвечаных Мікалаю Каперніку; або паэтычныя кніжкі сучасных: Флюкоўскага, Рымкевіча і інш. *(Выдавецтва „Паазер'е" вырасла з мізэрнага выдавецкага аддзела ГП Грамадска-культурнага аб'яднання „Паазер'е". Насуперак карканням „рэалістычных" варонаў, сваімі сіламі дайшло яно да агульнапольскага значэння — не беручы прытым ні залатоўкі з дзяржаўнага скарбу. Актуальна выдае па сорак кніжак у год, удзельнічае ў міжнародных кніжных кірмашах; узнагароджваецца).*

— Спецыялістамі мы не былі, але станавіліся імі, — кажа Святлана. Слухаю яе і думаю аб тым, якой вялікай справай з'яўляецца энтузіязм, а якую марную ролю можа адыграць так званы рэалізм. Людзі гібеюць без мясцовай, вялікай ідэі... Думаю таксама і аб тым, што мазурская зямля дала Святлане Навумік з Белавежы — і тую вялікую ідэю, і тое, што самае каштоўнае ў чалавечым жыцці: магчымасці развіцця сваёй асабовасці, здольнасцей. За гэта яна выплачваецца — беларускай працавітасцю, гарачасцю ў імкненнях да ўдасканальвання прафесіянальнага майстэрства.



*Святлана, Эрвін і Томак Крукі выйшлі на святочную прагулку.*

Крукі, дружная мазурска-беларуская сям'я, пакідаюць трывалы след. (Эрвін на днях закончыў чарговы раман).

— Ну, а што чаўпе твой Андрэй?! — паджартоўвае, маючы на ўвазе майго, яшчэ пісанага героя. Прагаварылі да світання.

...Іду з Эрвінам берагам Свіслачы ля зялёнашумных Азяранаў, загуменнямі Семянякаў. Ідзем пакупацца. Аж бачым, плывуць белыя ручнікі белавалосай Алёны. Кідаемся лавіць іх і пачынаем тапіцца, крычаць! Ратуюць нас азяранцы. Чую: А ён — чый будзе? — і паказваюць на Эрвіна. Гэта мой брат! — крычу ім з крыўдаваннем у голасе. Выбачай, Крацю, мы не ведалі... — адказваюць яны мне. І я не ведаў, што ў мяне ёсць брат Эрвін, — адказваю ім. Я сам не ведаў...

Расплюшчваю вочы. Раніца, позняя. Эрвін штосьці піша, у кухні, каб ненарокам не разбудзіць мяне. Прыглядаюся: у ягоным твары нешта такое, ад чаго адразу верыш чалавеку, раз і назаўсёды. Дабрыню чамусьці відаць з першага позірку, як каханне.

Святлана пайшла ў выдавецтва: чакалі яе неадкладныя карэкты.

Я, вярнуўшыся ў пахмурны Беласток, праз нейкі час атрымаў пасылку ад Святланы, кніжку „Па абедзвюх баках кардону" — успаміны вармінскага дзеяча Паўла Савы. З'явілася — пад яе апекай.

А ў снежні, калі ў маёй белаводнай айчыне выпадзе першы, белы-белы снег, вітаць буду ў сябе Эрвіна Крука, брата свайго.

**Сакрат Яновіч**

## Каштоўная знаходка

З Варшавы мы атрымалі нядаўна ліст:

„Свайго часу прыйшоў у памяшканне варшаўскага аддзела БГКТ пажылы мужчына — інжынер-архітэктар і адначасова мастак Браніслаў Іваньчык. Яшчэ да рэвалюцыі закончыў ён у Маскве факультэт архітэктуры і Мастацкую акадэмію. Будучы ўжо на пенсіі, працуе ён у Варшаўскім бюро па ахове помнікаў.

Б. Іваньчык паведаміў нам, што яго добрая знаёмая Антаніна Говар, якая рэпатрыявалася ў Польшчу з Віленшчыны, прывезла з сабою карціны заходнебеларускіх мастакоў. Паколькі гэта інфармацыя выклікала наша зацікаўленне, Б. Іваньчык паявіўся неўзабаве са згорнутымі ў рулон палотнамі, некалі вырванымі з рамак. Карціны былі надта знішчаныя. Вельмі цяжка было прачытаць на іх прозвішчы мастакоў. Карціны „Дзяўчына за кудзеляй" і „Жанчына ля студні" маляваў вядомы заходнебеларускі мастак М. Сеўрук. Аўтарам трэцяй карціны з постаццю Кастуся Каліноўскага з'яўляецца М. Шыманоўскі ці Шымановіч. Дзякуючы ахвярнасці некаторых членаў і сімпатыкаў варшаўскага аддзела БГКТ, удалося набыць гэтыя карціны для аддзела.

Рэстаўрацыю карціны за невялікую аплату зрабіў Б. Іваньчык. Дзве з гэтых карцін — „Кастусь Каліноўскі" і „Дзяўчына за кудзеляй" упрыгожваюць ўжо памяшканне варшаўскага аддзела БГКТ. Трэцяя карціна чакае хуткай ужо рэстаўрацыі. Віктар Швед"



*Кастусь Каліноўскі. Карціна мастака М. Шыманоўскага ці Шымановіча; подпіс аўтара вельмі невыразны.*



*Жанчына ля студні. Карціна мастака М. Сеўрука (1937 г.).*

А на другі дзень прыйшоў у нашу рэдакцыю Міхал Сеўрук, аўтар двух знойдзеных карцін, што ўпрыгожваюць памяшканне аддзела БГКТ на Сенаторскай у Варшаве.

Прыехаў у канцы лістапада ў Беласток, бо тут якраз, у Беластоцкім акруговым музеі, адбывалася выстаўка „Мастацкія сустрэчы". Была гэта сустрэча некалькі дзесяткаў былых студэнтаў мастацкага аддзялення Віленскага універсітэта міжваеннага перыяду. Сёння гэта ўжо пажылыя мастакі, якія прадстаўляюць у сваёй творчасці розныя метады і напрамкі. Пражываюць яны ў розных кутках Польшчы, а нават за яе межамі, і беластачанам было вельмі цікава пазнаёміцца з іх працамі.

На выстаўку быў запрошаны і Міхал Сеўрук, мастак з БССР, які жыве і працуе ў Несвіжы.

Цікавы лёс гэтага чалавека. Нарадзіўшыся ў Варшаве ў сям'і беларуса, што працаваў на чыгунцы, ён пачынаў сваю адукацыю ў пачатковай школе ў Маскве, працягваў у Брэсце, а вышэйшую атрымаў у Віленскім універсітэце, у 1932 годзе. Яго кіраўніком быў прафесар Людамір Сляндзінскі.

У Вільні М. Сеўрук працаваў мастаком. Быў адным з арганізатараў „Віленскай групы". Тады, між іншым, зрабіў вокладку да зборніка Максіма Танка „На этапах".

У 1939 годзе паехаў у Несвіж наведаць маці-ўдаву. І там ужо застаўся. Увесь пасляваенны перыяд да 1953 года працаваў настаўнікам малюнкаў у несвіжскіх сярэдніх школах. Цяпер на пенсіі, але не расстаецца з жывапісам ні на хвіліну. Ён член Саюза мастакоў БССР.

Яго мастацтва — рэалістычнае. На выстаўцы ў Беластоку можна было паглядзець яго карціны „Дзяўчаты", „Бабуля з унучкай", „Снеданне", „Настурцыі" і г.д.

Міхал Сеўрук з вялікай прыемнасцю даведаўся, што ў варшаўскім аддзеле нашага таварыства знаходзяцца дзве яго карціны. А ён жа нават не падазраваў, што яны наогул яшчэ існуюць. Апошні раз бачыў іх у 1939 годзе, у Баранавічах, куды аддаў на выстаўку. Думаў, што загінулі ў віры вайны. Таму з вялікай ахвотай паехаў у Варшаву на сустрэчу з імі, і з людзьмі, якія так клапоцяцца пра скарбы беларускай культуры.

**(А.Ч.)**



*Дзяўчына за калаўроткам. Карціна мастака М. Сеўрука.*

## Беларускія кнігі

У „Доме кнігі", кнігарня № 9 у Гайнаўцы, вул. 1 Мая 34, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Шашкоў Алесь,** Спытай сваё сэрца, 1972, стар. 304, цана 5 зл. 80 гр.

Аповесць, у цэнтры якой вёска Альшэўка, што ў былой Заходняй Беларусі. Аўтар паказвае яе мінулае, вострую класавую барацьбу за новае і пераўтварэнні ў гады Савецкай улады.

П'есы, 1973, стар. 336, цана 5 зл. 10 гр.

Зборнік найбольш вядомых і папулярных на Беларусі і ў Савецкім Саюзе сцэнічных твораў беларускіх аўтараў пасляваеннага часу: К. Губарэвіча „Брэсцкая крэпасць", А. Маўзона „Канстанцін Заслонаў", І. Козела „Над хвалямі Серабранкі", А. Макаёнка „Лявоніха на арбіце", І. Шамякіна „Не верце цішыні". Уступны артыкул „Літаратурнае жыццё п'есы" належыць А. Сабалеўскаму.

**Усікаў Якуб,** „Беларуская камедыя", 1973, стар. 192, цана 12 зл. 20 гр.

Праца вядомага беларускага літаратуразнаўцы і тэатральнага крытыка. У ёй разглядаюцца галоўным чынам лірычныя камедыі, напісаныя беларускімі драматургамі ў пасляваенны час і ў апошняе дзесяцігоддзе.

Сучасная беларуская мова, 1973, стар. 193, цана 5 зл. 80 гр.

Зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаных пытанням культуры мовы. У ім змешчаны: „Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення" А. І. Падлужнага; „Націск" М. В. Бірылы; „Да пытання аб некаторых склонавых формах назоўнікаў" Г. У. Арашонкавай; „Уласныя геаграфічныя назвы (скланенне)" В. П. Лемцюговай; „Сінтаксічная норма і кантамінацыя словазлучэнняў". А. Я. Міхневіча; „Некаторыя выпадкі ўжывання састаўнога імяннога выказніка" Т. В. Кузмянковай; „Ужыванне асобных слоў і выразаў" А. А. Каўрус, а таксама багатая бібліяграфія прац па культуры беларускай мовы.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki" Księgarnia Nr 9. 17-200 Hajnówka, ul. 1 Maja 34.

(мг)

(Працяг са стар. 1)

# НАЙЦЯЖЭЙШЫЯ і НАЙПРЫГАЖЭЙШЫЯ

— Пытаеце пра найцяжэйшыя дні ў маёй працы... А ці ж можа быць хоць адзін лёгкі дзень у настаўніка ды на дадатак у злучаных класах? Да кожнага ўрока трэба салідна падрыхтавацца, прадумваючы кожную маласць, каб потым не страціць нават хвіліны, бо ж працуеш адначасова па дзвюх праграмах з двума класамі. Вучу самых маленькіх — у I—II класах ды займаюся з дашкольнікамі, а яны патрабуюць найбольшай апекі, увагі, сэрца. І трэба аддаць усю сябе, каб прывіць у кожнага дзіцяці любоў да навукі, працы, сумленнасці, абавязковасці, уменне сужыцця з іншымі, словам — выхаваць новага чалавека, чалавека светлага і высакароднага. І за кожнага вучня перажываеш, як за сваё роднае дзіця. З асаблівым пачуццём сустракаеш дзяцей былых сваіх вучняў. Глядзіш на маленства, што першы раз пераступае школьны парог і згадваеш: „Якое яно будзе? Ці такое, як яго маці ці бацька?“ І скажу вам: вельмі пільна сачу за іх паводзінамі і вучобай, параўноўваю з бацькамі. І што вы думаеце? Пераконваюся, што цяпер дзеці больш развітыя і здольныя, чым былі іх бацькі. Так, настаўнічанне — гэта цудоўная праца!

**Т. Цівонюк** у 1960 г. закончыла аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, ужо два разы пабывала на настаўніцкіх курсах у Мінску. Апрача заняткаў з дашкольнікамі і ў класах I—II, яна вядзе беларускую мову ў цэлай школе.

— У нас усе дзеці, за выключэннем аднаго вучня, бацькі якога прыбылі нядаўна з па-за Беласточчыны, вывучаюць беларускую мову. Вучацца ахвотна, хоць я вымагаю многа, зусім не менш, чым па іншых прадметах. Што ж, дзяцей трэба зацікавіць прадметам, прыхіліць да яго, разбудзіць любоў да роднага слова. Знаёміць з прыгажосцю роднай мовы я заўсёды пачынаю ад беларускіх народных казак і дзіцячых песень. Спачатку пераказваю сама, а потым чытаю іх са зборніка „З рога ўсяго многа“. Дзеці з зацікаўленнем слухаюць, а затым самі пераказваюць змест або разважаюць аб лёсах казачных герояў. І так крок за крокам адкрываюць чар і багацце беларускай мовы, літаратуры, культуры. Раней вяла я гурток любіцеляў роднай мовы, займалася ў ім каля 30 вучняў. Прачыталі мы і абмеркавалі многа твораў, у тым ліку і аповесць Я. Маўра „Палескія рабінзоны“. І вось аднойчы патухла святло. Я і кажу дзецям: „Што ж, ідзеце дамоў...“, а яны пабеглі, нанеслі свечак, і мы не спынілі сваіх заняткаў. А найбольш памятны для мяне гэта дзень, калі мы ў школе адзначалі 80-годдзе Я. Купалы і Я. Коласа. Падрыхтавалі багатую праграму беларускіх песень, інсцэнізацыю паэмы Я. Купалы „Курган“, вучань Юрка Стоцкі — цэлыя „Начаткі“ з „Новай зямлі“ Я. Коласа. Амаль уся вёска, ад малога да старога прыйшлі ў школу. Не было як павярнуцца, запоўнілі калідор, стаялі пад вокнамі. Вечарына ўдалася на славу. Перад тым я намервалася запрасіць каго-небудзь з „Нівы“, але пабаялася: а ну ж не ўдасца! Потым напісала артыкул, але так і не выслала. Падумала сабе — самае важнае, што зроблена і добра. І вы таксама не расхвальвайце ды не размалёўвайце мяне. Пішыце так, звычайна, па праўдзе...

І я добрасумленна споўніў жаданне Тамары Цівонюк — сціплай і працавітай настаўніцы, што мае адзнаку „Прыяцеля дзіцяці“, шмат узнагарод аддзела асветы і культуры Павятовага ўпраўлення ў Гаўнаўцы і сёлетнюю ўзнагароду куратара Беластоцкай школьнай акругі.

**Мікалай Гайдук**

(Працяг са стар. 1)

## Сярод узгоркаў Дуброўшчыны

— Ад такіх гаспадароў пераймаем зямлю ўзамен за пажыццёвую пенсію, або проста купляем яе за грошы. Для прыкладу: у апошніх месяцах за пажыццёвую пенсію перанялі мы 54 гаспадаркі і 5 гаспадарак купілі за грошы. Дзяржаўная цана на зямлю — ад 9 да 13 тыс. злотых за гектар. Гэта залежыць ад якасці глебы.

— Пераняць зямлю — гэта першы крок. А што пасля?

— Перш за ўсё плануем разводзіць супольную жывёлагадоўлю. Павятовае праўленне саюза сельскагаспадарчых гурткоў прадбачвае, што ў 1975 годзе сяляне Дуброўшчыны будуць супольна вырошчваць 1400 штук свіней, апрача гэтага ў Новым Двары ўжо зараз распачне працу аўчарня на 800 штук.

— А як у вас праходзіць ажыццяўленне лозунга Беласточчыны: *„Мільён кароў за чатыры гады“*?

— На гэты год выпадала нам 2000 штук. План мы перавыканалі. Адначасова пачалі яшчэ планавае аднаўленне пароды кароў. На месца чырвонай уводзім шмат выдайнейшую чорна-белую. Дагэтуль усё праходзіла спраўна, але капрызнае лета і скупы запас кармоў можа затармазіць наш аптымізм. Мы, аднак, зробім усё, што толькі можна будзе зрабіць, — цвёрда падкрэсліў Г. Матулевіч, — каб перавыканаць нашы планы.

**Віктар Рудчык**



ПАСЁЛАК „ТЫСЯЧАГОДДЗЕ“

Жыллёвы пасёлак „Тысячагоддзе“ з'яўляецца адным з найпрыгажэйшых беластоцкіх пасёлкаў. Пасялілася тут звыш васьмі тысяч жыхароў. На пасёлку ёсць два прадшколлі, яслі, дзве пачатковыя школы, крыты басейн для плавання. Дастаткова тут павільёнаў абслугоўвання, спартыўных пляцовак пляцаў для дзіцячых гульняў.

Самі жыхары пасёлка клапатліва ўпарадкоўваюць скверыкі, дарожкі, газоны.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

## Памёр Аляксандр Каліноўскі

4 снежня г.г., пражыўшы 56 год, памёр у Беластоку Аляксандр Каліноўскі — папулярны артыст былой „Лявоніхі“ ў яе першай фазе развіцця. Аляксандр Каліноўскі быў таксама салістам першага беларускага хору, які дзейнічаў у Беластоку у другой палове пяцідзесятых гадоў.

Пахаваны на праваслаўных могілках.

## У ляўкоўскай бібліятэцы

Ляўкоўская бібліятэка налічвае 6549 кніжак, у тым ліку амаль чатырыста на беларускай і рускай мовах. Карыстаецца з іх 470 чытачоў з Ляўкова, Ляшукоў, Міхнаўкі, Ахрымаў, Падляўкова, Кардона і Капітаншчыны.

Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца кніжкі прыгодніцкія, гістарычныя, дэтэктыўныя, раманы. Расце таксама зацікаўленне папулярна-навуковымі кніжкамі.

Штогод ў бібліятэку прыбывае новых кніжак на агульную суму каля 5 тысяч злотых.

Найбольш чытаюць Крыстына Аўшталь, Ніна Пташынская, Юрка Трусевіч, Вольга Максімюк, Святлана Болбат, Аліна Бандарук, Галіна Сухадола і іншыя.

Маладая бібліятэкарша Вера Марчук, выпускніца Гайнаўскага беларускага ліцэя, вельмі ахвотна раіць і дапамагае ў выбары кніжкі кожнаму чытачу. Многа ўвагі прысвячае яна распаўсюджванню сярод чытачоў беларускай і рускай літаратуры, а таксама часопісаў. Тыднёвік „Ніва“ заўсёды знаходзіць тут сваіх верных сяброў.

Ды не адным пазычаннем кніжак абмяжоўваецца дзейнасць бібліятэкаршы. Вядзе яна цікавыя заняткі са школьнай моладдзю. Арганізуе чытанне дзіцячай літаратуры, яе пераказ. Дэманструе каляровыя дыяфільмы з казкамі і прыгодніцкімі апавяданнямі. Арганізуе яна таксама чытальніцкія конкурсы з узнагародамі.

У бібліятэку прыходзіць каля 20 розных газет і часопісаў. Некаторыя часопісы бібліятэкарша камплектуе.

Ляўкоўская бібліятэка мае 6 бібліятэчных пунктаў, з якіх найлепш дзейнічаюць пункты ў Ляшуках (шмат гадоў вядзе яго настаўніца Раіса Харкевіч) і ў Ахрымах (вядзе яго настаўніца Анна Несцярук). Кніжкі змяняюцца ў іх кожныя тры месяцы, а нават часцей.

Прыемнае ўражанне робяць на ўсіх наведвальнікаў бібліятэчныя пакойчыкі. Тут свежыя насценгазеты, выстаўкі выдавецкіх навінак, стройнымі радамі стаяць кнігі на паліцах, чысціня, парадак, гэта таксама заслуга маладой бібліятэкаршы. Яна намерана яшчэ прыдбаць у бібліятэку пушысты дыван і пыласос.

**Я. Цялушэцкі**
фота аўтара



*Маладая ляўкоўская бібліятэкарша Вера Марчук і літаратар Сакрат Яновіч.*




## Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXXI**

**Элегіі смерці.** Варта разгледзець вельмі спецыфічны від паэзіі Багдановіча, які ўмоўна называем тут элегіямі смерці. Элегія як паэтычны від узнікла ўжо ў старажытнай Грэцыі. Элегія азначала верш журботны, прысвечаны сумнаму роздуму над жыццём, над набліжэннем старасці, над смерцю. У пазнейшыя часы злажыўся таксама від грамадскай элегіі. У грамадскай элегіі пісьменнікі займаюцца рознымі трагічнымі аспектамі жыцця народа. Несумненна, вершы Багдановіча, прысвечаныя беларускім справам, былі наогул утрыманы ў элегійным тоне. Аб такіх вершах мы ўжо, аднак, гаварылі пры разглядзе грамадскай лірыкі паэта. Зараз зоймемся толькі асабістымі элегіямі Багдановіча. Да такой катэгорыі элегій трэба залічыць: „Не кувай ты, шэрая зязюля“, „Ой, чаму я стаў паэтам“, „Даўно ўжо целам я хварэю“, „Я, бальны, бескрыдлаты паэт“, „Цемень“, „Ў краіне светлай, дзе я ўміраю“.

Спецыфічную пазіцыю сярод названых твораў займае верш „Ой, чаму я стаў паэтам“. Можна яго назваць элегіяй грамадска-асабістай. Паэт гаворыць тут аб няшчасцях роднага краю і спалучае магчымасць іх ліквідацыі з смяротнай ахвярай паэта.

Аб спецыфіцы можам гаварыць таксама ў выпадку элегійнага верша „Цемень“. Выступае ў ім рэлігійны элемент. Зрэшты, элемент гэты не адыгрывае тут галоўнай ролі. З'яўляецца ён толькі прадлогам, сродкам, пры дапамозе якога паэт выяўляе свой настрой.

„Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок.
Над зямлёю — імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць!
Але вось цераз цемень маланка блішчыць,
Асвячае мне вобраз Хрыста... яго крыж...“

Усе іншыя названыя намі вершы Багдановіча — гэта элегіі, прысвечаныя адной тэме, тэме смерці. У гісторыі літаратуры прынята называць такія вершы элегіямі трэнічнымі. Гэтыя элегіі ў Багдановіча цесна звязаны з безнадзейным станам здароўя паэта. Багдановіч ведаў, што памрэ заўчасна. Цень смерці хадзіў за ім на працягу ўсяго яго свядомага жыцця. Паэт не мог аб ёй не думаць і не мог аб ёй не пісаць. Прывід смерці акрэсліў характар вершаў, аб якіх гаворым. Як жа прыгожы і ўдумлівы верш гэтага цыкла „Не кувай ты, шэрая зязюля“. Горкая прэтэнзія паэта да зязюлі, якая прарочыць паэту доўгае жыццё, у большай ступені накіравана да людзей, якія пацяшалі яго, чым да птушкі. Паэт ведае праўду аб сваім лёсе і ведае сваю будучыню, імя якой — заўчасная смерць.

„Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.
Бо не тое сведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае.“

Цікавы па сваёй задуме і форме трыялет „Я, бальны, бесскрыдлаты паэт“ — твор гэты ўтрыманы ў класічным каноне элегіі. Галоўны змест твора — кароткая хвіліна радасці, якая наведала яго, мабыць, пасля атрымання лісту ад дарагой асобы:

„Я, бальны, бесскрыдлаты паэт,
Помню, раз пазабыў сваё гора, —
Гэта чуда зрабіў Ваш прывет.
Я — бальны, бесскрыдлаты паэт!
Мо жыцця майго верш ужо спет, —
Дык няхай Вам хоць песня гавора,
Як бальны, бесскрыдлаты паэт
На гадзіну забыў сваё гора“.

Бадай што апошняй элегіяй Багдановіча, а хто ведае, ці не апошнім яго творам наогул быў верш „Ў краіне светлай, дзе я ўміраю“. Твор гэты напісаны ў Ялце, можа, на некалькі дзён перад смерцю. Не без гордасці гаворыць тут паэт аб сваім зборніку „Вянок“, выданы ў друкарні Кухты. Зборнік гэты памагаў паэту жыць і памагаў годна сустрэць смерць. Верш, аб якім гаворым, з'яўляецца парогам між жыццём і смерцю, з'яўляецца формай развітання са светам.

„Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты“.

На заканчэнне хацелася б сказаць пра яшчэ адзін верш паэта „Даўно ўжо целам я хварэю“. Адзначаецца ён выключным драматызмам і любоўю да роднага краю. Як старажытны Антэй, які чэрпаў новыя сілы пры кожным дотыку да зямлі, так і Багдановіч верыў, што кантакт з беларускай зямлёй напоўніць яго слабое цела новымі сіламі. Прыводзім у цэласці гэтую малітву, гэтую літанію, гэтую нязДзейсненую мару паэта:

„Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды.
Калі ж у ім умру-загіну, —
Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой“.

Скромная мара паэта аб тым, каб ляжаць у сваёй зямлі, не споўнілася. Пахаваны ён у Ялце.

## Паяднаўчая камісія ў Шудзялаве

Паяднаўчыя грамадскія камісіі створаны для таго, каб займацца рознымі меншымі справамі, як суседскія нязгоды, спрэчкі, нават меншыя бойкі. Такія справы замест у суд, трапляюць у паяднаўчую камісію, якая працуе пры праўленні гміны.

У Шудзялаўскай гміне таксама працуе такая камісія, ды актыўна. Старшынёй яе з'яўляецца мясцовы настаўнік Мікалай Гасперчык, а рэферэнтам — Станіслаў Вільда.

Шудзялаўская камісія складаецца з пяці чалавек. За кароткі час свайго існавання яна разгледзела многа спраў. Гэта ў пераважнай большасці розныя суседскія клопаты, спрэчкі і бойкі — то за агарод, то за дзяцей, то за курэй і т.п.

Многа дробных спраў перадае камісіі павятовы суд у Саколцы. Усе справы, якія трапілі на разгляд камісіі, былі вырашаны палюбоўна паміж спрэчнымі бакамі. Камісія пагадзіла нават тых, каго не мог пагадзіць суд у Саколцы.

**Т.К.**

## Ганчары з Гайнаўшчыны

У Гайнаўскім павеце ёсць высакаякасная гліна, і гэтае прыроднае багацце выкарыстоўваюць дзелавітыя ганчары. Найлепшым поспехам карыстаюцца вырабы так званай сівой керамікі — сівыя збаны, гаршкі, попельніцы, вазы. Вялікі вопыт, замацаваны шматгадовай спецыялізацыяй, маюць у вырабе рознага глінянага посуду наступныя ганчары: Лявон Саласцюкевіч і Уладзімір Гладскі з Кляшчэляў, а таксама Аляксандр Анцутка з Лукі. Усе яны прадаюць свае вырабы беластоцкай „Цэпэліі" і такім шляхам знаходзяць яны пакупнікоў на ўнутраным і замежным рынках. Экспанаваліся іх вырабы на міжнародных выстаўках у Маскве, Лондане, Жэневе, Тулузе і Парыжы.

Аляксандр Анцутка з Лукі дэманстраваў сваё ўмельства на цэнтральнай дажынкавай урачыстасці ў Беластоку, на „Цэпэліядзе" у Кракаве, на выстаўцы керамікі ў Варшаве.

Карыстаецца ён глінай толькі з ваколіц Ляўкова, дзе, як вядома, працуе адна з большых у нашым ваяводстве керамічных фабрык. (ця)

## ФАЛЬКЛОР

### ЖНІЎНАЯ




*Оленъ по бору ходіт,*
*Оленъ по бору ходіт,*
*За ім Ясъ коня воділ.*
*За ім Ясъ коня воділ,*
*За ім Ясъ коня воділ,*
*Стрэлъбонъку набівае.*
*Стрэлъбонъку набівае,*
*Стрэлъбонъку набівае*
*В оленя попадае.*
*Нэ потрапіў в оленя,*
*Нэ потрапіў в оленя,*
*Ңо в белого камэня.*

*— Ой матулю, матулю,*
*Матулю, матулю,*
*Чом я долі нэ маю?*
*Чом я долі нэ маю,*
*Чом я долі нэ маю,*
*В оленя нэ трапляю?*
*— Нэ любі, сынку, вдовы,*
*Нэ любі, сынку, вдовы,*
*Нэ будэш меті долі.*
*Любі, сынку, девонъку,*
*Любі, сынку, девонъку —*
*Будзеш меті доленъку.*

Ад Феадосіі Маліш, 1900 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія Гайнаўскага павету, запісаў 24 верасня 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.




Плённых поспехаў у сваёй дзейнасці дабіліся гурткі вясковых гаспадынь (КГВ) у Беластоцкім павеце. У гэтым годзе павятовая арганізацыя КГВ павялічылася на 800 членаў і налічвае цяпер 5660 асоб.

КГВ арганізуюць у вясковым асяроддзі розныя мерапрыемствы. Сёлета арганізавалі яны сорак вясковых дзяцінцаў. Усе з поўным харчаваннем, забяспечаны палаткамі, лежакамі, рознымі дзіцячымі цацкамі. Сярод іх найлепш працавалі дзяцінцы ў Баршчэве, Сахонях, Савіне, Новым Александрове. Жанчыны прыйшлі да вываду, што найлепш супольна вучыцца таму, як варыць, пячы, рабіць кампоты, шыць вопратку або коўдры, займацца ручной вышыўкай. Яны таксама арганізуюць супольную гадоўлю куранят, вырошчваюць раннюю і малавядомую агародніну, павышаюць гігіену малака. За пасняховыя вынікі ў конкурсах, напрыклад, па вырошчванню гародніны і на найпрыгажэйшы агародчык з кветкамі, удзельніцы іх узнагароджваюцца пыласосамі, пральками, кухоннай пасудай і іншымі рэчамі.

У асенне-зімовы перыяд вясковыя жанчыны найчасцей арганізуюць кулінарныя і кравецкія курсы. У пачатку гэтага года з асаблівым поспехам праходзілі заняткі ў Плянце, Бахурах, Асовічах, Злотніках, Навасадах, Агародніках, Сабалеве, Тапалянах. Цяпер гаспадыні з Сабалева і Тапалян самі шыюць сабе лёгкую вопратку.

У гэтым зімовым сезоне заняткі па трыкатажнай вытворчасці намеран арганізаваць гурток з Пянькоў, павышаць свае кулінарныя веды будуць жанчыны з Ялоўкі, Луплянкі Старой, Юшкавага Груда, Кабылянкі, Азяблаў, Тапалян, шыць вопратку і коўдры кухмаўскія і шымкаўскія гаспадыні.

Цікавую форму ў сваёй дзейнасці ўвялі жанчыны з Кур'ян — „каляндар імянін". У дзень імянін той ці іншай жанчыны ўсе члены КГВ наведваюць яе дома, прыходзячы з пажаданнямі і з падарункамі. „Каляндар імянін" мае тут доўтую традыцыю. Гурток дзейнічае ў Кур'янах ужо шаснаццаты год.

Некаторыя КГВ займаюцца таксама аматарскай самадзейнасцю. Працай іх найчасцей кіруюць настаўніцы. І так, гурток КГВ у Меляшках ставіць ужо пару год абрадавыя сцэнкі, напрыклад, з вяселля, вечарынак. Жанчыны з Коматаўцаў і Сахоняў ставяць п'есы, а таксама выступаюць са сваёй мастацкай праграмай у суседніх вёсках. Яны выязджаюць па запрашэнню нават у далёкія мясцовасці. Для прыкладу, самадзейнікі Сахоняў выступалі на сцэне ў Страшаве, самадзейнікі з Меляшкоў нават у Беластоку.

Сёлета ў гонар святкавання 30-ай гадавіны ПНР вясковыя жанчыны, перш за ўсё з гмінаў Шымкі і Заблудаў, пасадзілі ў сваіх агародчыках 30 ружаў кожная.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Жанчыны з Асовічаў вучацца, як падаць на стол багаты пачастунак.*




## Дзярэўня!

Як і прадказваў я (ці ж не Клімушка!), Гапка не трапіла на з'езд выпускнікоў белліцэя. І, адзначце, майму яснабачанню не трэба было, як услаўленаму (пара) Літаратурай празорцы ніякіх фотафокусаў. Дастатковымі аказаліся чуткі аб прынцыповасці арганізатараў з'езду.

Гапка перажыла з'езд цяжка, амаль як Ларс. Абоім не ўдалося піць з белліцэйскіх крыніц (гыгы...), абое выказалі свой жаль публічна: Гапка падкрэсленым маўчаннем, Ларс пакутніцкай элегіяй.

Гапка аднак хутка ачухалася ад белкрынічнай настальгіі. Як толькі атрымала запрашэнне (начальнік пастараўся) на адкрыццё карчмы „Суседка", сум па страчаным бы рукой (начальніцкай?) адняло.

Настрой яшчэ больш паправіўся, калі Гапка прыйшла да вываду, што ніводзін белвыпускнік (з 1001) не ўдастоіўся гонару прысутнічаць на, як не кажы, гістарычнай падзеі ў жыцці гміны. Па ўсім відаць, ніводзін не ўдастоіўся. Хоць і знайшліся падшыванцы, што намякалі на сувязі з ліцэем. Напрыклад, бос дружалюбнай арцелі: выявіў Гапцы, што ён ведае беларускага пісьменніка Тараса... Бульбу. Або Карбюзе! Марнеючы гігант архітэктурнай думкі. Другога такога (як ён) у свеце няма! — пераконваў Гапку. Ды ці задрыпанскую падчэпіш такім кручком? Гэтыя дзядзькі нічога супольнага з белліцэем не маюць, — падумала Гапка і вырашыла адсвяткаваць сваю перамогу над бельскімі задавакамі.

Падсела да найбольш санавітых. Была душой кампаніі. І нішто не падвяшчала (дзе быў Клімушка?) драмы. Драма прыйшла з нечаканага боку. Пасля прамоваў, калі госці ласаваліся ўжо мясцовымі смакалыкамі, а бэгэкатоўцы рабілі мастацкі падклад, аб'явіўся Парфенаў Колька і пачаставаў маналогам да інтымнай адтуліны.

Паднесены Колькам пачастунак быў падазронага паходжання і сапсаваў гасцям апетыт. Яны заёрзалі ў крэслах і, здзіўлена паціскаючы плячыма, утаропіліся ў... Гапку. Чакалі кульмінацыйнага пункта. Але Колька (цару-царскае) не стаў падшывацца пад Грышку Распуціна і расказваць сталічныя анекдоты. Скрыжаваўшы на грудзях рукі, ён разгублена ўсміхаўся і чакаў апладысментаў.

У гэты час Гапка, у якой абудзілася цнотнае натхненне, згарала ад сораму.

— Дзярэўня! — сказаў бы знаёмы сталічны паэт, вялікі знаўца інтымных няроўнасцей. І, магчыма, гэтым асудзіў бы не Гапку, а Кольку. Бо з духмянай верашчакай, свежымі блінамі, румянымі пампушкамі змяшаў той тухляціну, якую выграб у літаратурных каньёнах Венеры. Дзярэўня! Факт. **ДЗЗ**

Сёння хачу расказаць пра аднаго чалавека, жыццё і праца якога з'яўляюцца прыкладам для ўсіх.

Сцяпан Зубор з вёскі Тафілаўцы яшчэ з маладых год разбіраўся, што капіталістычны лад панскай Польшчы да дабра не давядзе, што ён чужы селяніну і рабочаму. На прыкладзе свайго жыцця бачыў гэта дасканала, бо часта і хлеба бракавала на стале.

С. Зубор уцягнуўся ў вір прагрэсіўных групіровак і арганізацый.

У 1935 г. уступіў у КПЗБ. Сам кажа: калі ўступіў і калі мне таварышы даверылі, трэба было апраўдаць сябе., трэба было дзейнічаць. І Сцяпан дзейнічаў. Быў палымяным агітатарам і прапагандыстам камуністычнай літаратуры, актыўна выступаў з прамовамі на сходах ва ўрочышчы „Бабка".

### ЗА НАРОДНУЮ ЎЛАДУ

## ВЫБРАНЫ ШЛЯХ

Самыя адказныя функцыі яму найчасцей прыходзілася выконваць для сваёй ячэйкі.

Трахім Панфілюк з Дубіч Царкоўных у самых цёплых словах успамінае працу свайго найлепшага сябра і таварыша С. Зубра, за якога ён быў і паручыўся, калі той уступаў у партыю. Было гэта ўжо пасля таго, як Т. Панфілюк вярнуўся з турмы і зноў пачаў праводзіць падпольную работу. Тады зацікавіўся ён малодшым на некалькі год сваім школьным сябрам Зубрам. Так лёс звёў іх, што разам пачалі дзейнічаць у адной партыі, якая ў той час заваявала вялікі аўтарытэт у народзе. У Дубічах Царкоўных і бліжэйшых вёсках самым адказным яе работнікам быў Т. Панфілюк.

С. Зубор ахвярна дзейнічаў аж да самага канца. Калі ўвосень 1939 г. была вызвалена Заходняя Беларусь, запанавала іншае жыццё. Але і тады патрэбны былі ахвярныя і адказныя людзі. Спатрэбіліся здольнасці такіх, як Сцяпан Зубор, які ў сваёй вёсцы стаў актывістам новай улады. Кіраваў, падказваў, як мог, і людзі шанавалі яго за гэта.

У час нямецкай акупацыі ўся сям'я Зубраў перажывала пастаянную пагрозу з боку фашыстаў. Аднак і тут Сцяпан, далучыўся да тых сіл, якія безупынна вялі барацьбу з нямецкімі акупантамі і, як мог, так дапамагаў ім. Нават калі любімую дачку Ганну фашысты пагналі на прымусовыя работы ў Германію, ён не паддаўся. Трэба было працаваць далей і ён працаваў.

Пасля вызвалення, калі пачалі дзейнічаць першыя органы народнай улады, Сцяпан Зубор першы прыйшоў сюды. І першы ў вёсцы, бо вясною 1945 г., уступіў у рады ППР, а каб ніхто не на-

(Працяг на стар. 7)

